# Грамада выступае за яднанне беларускага народа, асэнсаванне мінулага і згуртаванне сіл

*"Жыццё кароткае — Айчына вечная!"*




# ГРАМАДА

№1 сакавік 1993 года | СВАБОДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | тыраж 50000 экз. | цана 4 руб.


## — Каго любіш?
## — Люблю Беларусь!

Ёсць ва Уладзіміра Караткевіча выдатны верш "Нявесце Каліноўскага" і ў ім такія радкі: "Дарагая, ты стала ўдавою, не пабачыўшы жаніха". У радках гэтых, усё мне думаецца, схаваны глыбокі сэнс: занадта мала Беларусь і Каліноўскі былі разам. Занадта рана ён пайшоў з жыцця. Ды і абяскроўленая, дарэшты падбітая пасля разгрому паўстання Беларусь не адразу ачуняла, не адразу ўспомніла і на поўны голас вымавіла дарагое імя свайго "нарачонага" — апостала свабоды.

Першы артыкул пра Каліноўскага на беларускай мове з'явіўся ў 1916 годзе ў газеце Вацлава Ластоўскага "Гоман". Ластоўскі даў артыкулу надзвычай дакладную назву — "Памяці Справядлівага". Выбрана, знойдзена самая характэрная рыса вялікага змагара — справядлівасць.

Мяркуйце самі. Выхадзец са шляхты, які бліскуча скончыў сталічны універсітэт і мог бы, як многія іншыя, зрабіць сытую кар'еру юрыста, ён рашуча стаў на бок прыгнечанага народа. Выхадзец з таго асяроддзя, якое часцяком лічыла сябе ў тыя часы польскім, ён недвухсэнсоўна абвясціў сваю лучнасць з беларускім народам, віртуозна карыстаўся народнаю моваю, стаў буйным дзеячом беларускай нацыянальнай культуры, стваральнікам беларускай дэмакратычнай прэсы, першым класікам палымянай публіцыстыкі новага часу (яна пячэ і дагэтуль), даў высокі ўзор грамадзянскай лірыкі.

На маёй памяці прайшло некалькі юбілеяў Кастуся Каліноўскага: 125- і 150-годдзе з дня нараджэння. Сённяшні юбілей не такі і "круглы" — 155 гадоў. І ўсё ж вельмі адметны. З'явілася зусім новая якасць. Упершыню мы адзначаем угодкі Каліноўскага ва ўмовах незалежнасці рэспублікі. Справа, за якую геранчна змагаўся і аддаў сваё маладое жыццё Каліноўскі, перамагла. На палітычнай карце Еўропы з'явілася новая незалежная дзяржава — Рэспубліка Беларусь.

Мы вольныя цяпер. Адкрыты ўсе шляхі — на Захад і Усход, на Поўнач і Поўдзень. Самыя светлыя нашы галовы, лепшыя нашы мудрацы б'юцца над выпрацоўкай канцэпцыі беларускай нацыянальнай ідэі, ідэі беларускага шляху.

І для Каліноўскага гэтае пытанне было галоўным. Ён шмат зрабіў для беларускай дзяржаўнасці. Маніфестам ад 1 лютага 1863 года абвясціў стварэнне Часовага ўрада Літвы і Беларусі. Што ні кажы, а па сутнасці гэта была дзяржава — беларуска-літоўская або літоўска-беларуская — са сваімі ўладнымі структурамі (паўстанцкая арганізацыя) і войскам — ляснымі жаўнерамі. У паўстанцкіх дакументах шырока выкарыстоўвалася беларуская мова.

Няпростымі былі ўзаемаадносіны Каліноўскага з Захадам і Усходам, з Расіяй і Польшчай. Ён бачыў моц польскага вызваленчага руху, прызнаваў, у прынцыпе, адзінства паўстання. "...Польскае дзела — гэта наша дзела, гэта вольнасці дзела", — сцвярджаў ён. І разам з тым упарта змагаўся з варшаўскім камітэтам за кожную пядзю беларуска-літоўскага суверэнітэту.

Ён многае (гэта даведзена ў шматлікіх сур'ёзных даследаваннях) узяў у рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Перш за ўсё вострую сацыяльнасць, у той час як польская думка назапасіла багаты вопыт пастаноўкі нацыянальных аспектаў вызваленчага руху. Ён рашуча — асабліва па першым часе — размяжоўваў народ і царызм. Яму належаць высокія словы: "Народ маскоўскі скаланаецца, бачачы нашу векавую крыўду. Ён імкнецца быць свабодным нашым братам, а не прыгняталнікам, і адказнасць перад нашчадкамі за нашу жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм". Потым пад уплывам паражэння паўстання, пад уплывам дзейнасці Мураўёва-вешальніка і яго памагатых пачуццё яго да Расіі ўскладнілася. У "Пісьмах з-пад шыбеніцы" ў яго вырваліся нават несправядлівыя словы ў адрас рускага народа, які, на яго думку, зусім зміры́ўся са сваім ярмом. Здаецца, ён зрабіў канчатковы выбар.

(Заканчэнне на 4-й стар.)

*Янка Купала:*
*... Вы не ўмееце шчэ, гусі,*
*Выракацца Беларусі,*
*Як умеюць людзі.*



### З Заявы Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў:

## Права беларусаў на дзяржаўную незалежнасць — неад'емнае

75 гадоў назад, 25 сакавіка 1918 года, адбылася знамянальная падзея ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны — Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана самастойнай, незалежнай дзяржавай. Абвяшчэнне БНР было вынікам шматгадовага нацыянальна-вызваленчага і адраджэнскага руху, самаадданай барацьбы патрыятычных сіл за інтарэсы беларускай нацыі.

Акт абвяшчэння суверэннай рэспублікі, які мае вялікае гістарычнае значэнне ў лёсе беларускага народа, да гэтага часу далёка не ўсімі асэнсаваны. Тады ўпершыню выразна прагучаў голас яго прадстаўнікоў аб праве беларусаў на самавызначэнне, дзяржаўную незалежнасць, непадзельнасць тэрыторыі і самастойнае развіццё. Беларуская Народная Рэспубліка атрымала палітычнае і юрыдычнае прызнанне шэрагу краін. Станаўленне і развіццё БНР як суверэннай дзяржавы ў сувязі са складанымі аб'ектыўнымі абставінамі не атрымала свайго лагічнага завяршэння. У той жа час гэта адыграла істотную ролю ў стварэнні БССР у студзені 1919 года. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, прынятая Вярхоўным Саветам рэспублікі 27 ліпеня 1990 года, з'явілася заканамерным вынікам імкнення беларусаў да пабудовы сваёй незалежнаи, дэмакратычнай дзяржавы.

Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў звяртаецца да грамадскасці рэспублікі з прапановай адзначыць гэтую гістарычную падзею. Спадзяёмся, што 25 сакавіка з'явіцца днём яднання беларускага народа, асэнсавання мінулага і згуртавання сіл дзеля адраджэння нашае Бацькаўшчыны.

(Ва Усебеларускай навуковай канферэнцыі прынялі ўдзел звыш 300 вучоных-гісторыкаў і выкладчыкаў гістарычных дысцыплін з навуковых і навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь, архіўныя і музейныя работнікі, краязнаўцы, вайскоўцы, святары розных канфесій. У канферэнцыі таксама удзельнічалі навукоўцы з Галандыі, Германіі, Кітая, Польшчы, Расіі, Украіны.)

### Права і Мы

# Колькі можна плесціся ў хвасце пятроўскай "рэформы барады", калі гісторыя дае шанц пабудаваць самастойную прававую дзяржаву?!


**Сцяпан СОКАЛ,**
**прафесар, доктар юрыдычных навук, старшыня Саюза юрыстаў Рэспублікі Беларусь, член Цэнтральнай Рады БСДГ**


Набытая (крыху нечакана для значнай часткі насельніцтва Беларусі) дзяржаўная самастойнасць робіць вельмі актуальнай выпрацоўку мадэлі палітычнага ладу нашай краіны. Марудна, але ўсё ж прасоўваецца работа над праектам Канстытуцыі. Абмеркаванне яго як у парламенце, так і ў грамадскіх колах паказвае існаванне мноства непрымірымых палітычных пазіцый. Але, бадай, галоўнае, вельмі адчуваецца недастатковасць, нявыпрацаванасць у свядомасці беларусаў нацыянальнага дзяржаўна-палітычнага менталітэту. Прычыны тут зразумелыя. Перш за ўсё —няведанне ўласнай гісторыі. І тады ідэаламі становяцца не традыцыі і каштоўнасці грамадска-палітычнага жыцця ўласных продкаў, а выпадковыя, навязаныя сілай ідэалы і каштоўнасці дзяржаў, ажыццяўляўшых уладу над Беларуссю. Многія выдатна ведаюць вартасць рэформаў Івана Грознага, Пятра Вялікага і іншых рускіх манархаў на шляхах стварэння Расійскай імперыі і адначасова "ўзбагачаюць" сваю свядомасць рысамі расійскага імперскага менталітэту.

Гэтыя рысы асабліва ўзбагаціліся ў часы існавання савецкай імперыі. Не хачу пакрыўдзіць ветэранаў, але менавіта сярод іх часцей за ўсё можна сустрэць ярых прыхільнікаў ідэалаў супердзяржавы, моцнага ваеннага кулака, размоў з іншымі народамі з пазіцыі сілы, адсюль непраходзячая настальгія па былому Саюзу. Дарэчы, і ў іншых сацыяльных слаях нашага грамадства стала расці колькасць прыхільнікаў падобных ідэалаў. Даволі папулярным становіцца лямантаваць з нагоды распаду Саюза. Быццам бы, калі рэаніміраваць Саюз, то адновяцца эканамічныя сувязі, палепшыцца жыццё народа. Самападман. Палітычная пілюля не вылечыць наша грамадства. Справа не ў тым, каб зноў яднаць мноства народаў у супер-дзяржаве, а каб навучыцца працаваць і арганізаваць вытворчасць на ўзроўні лепшых сусветных стандартаў. Саюз таму і распаўся, што не змог вырашыць гэтых праблем ні як у маштабе ўсёй краіны, так і асобных рэспублік. Падобныя рысы менталітэту, крыніцы якога ў савецка-імперскай свядомасці, несумненна з'яўляюцца перашкодай для распрацоўкі, фарміравання сучасных ідэалаў беларускай дзяржаўнасці. Дарэчы, будучы нядаўна на навуковай канферэнцыі ў Вільні, я заўважыў і тое, што эканамічныя праблемы ў Літве больш вострыя, чым у Беларусі і тым не менш ні ад каго не чуў шкадаванняў аб развале СССР.

І ўсё ж, нягледзячы на цяжкасці, ёсць падставы сцвярджаць, што пэўныя дадатныя зрухі ёсць. Пра гэта красамоўна сведчыць Дэкларацыя аб суверэнітэце і незалежнасці. Яна абвяшчае сусветнаму грамадству намеры Беларусі быць нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавай. Гэта і ёсць праява новага беларускага палітычнага менталітэту! У цэлым пераўтварэнні ў Беларусі павінны быць накіраваны на стварэнне беларускай прававой дзяржавы. Гэта асноўны ідэал, да якога павінны імкнуцца прагрэсіўныя палітычныя партыі і грамадскія рухі Беларусі. Праца, вядома, "вялікая і адказная, і ніхто яе за саміх беларусаў не зробіць.

Апошнім часам пра прававую дзяржаву сталі гаварыць і пісаць менш. Стварэнне новай палітычнай арганізацыі ўлады патрабуе вызначэння прыярытэтных каштоўнасцей. Для мэт беларускай прававой дзяржавы важна выкарыстаць свой гістарычны ўласнабеларускі палітычны вопыт і вопыт, выпрацаваны перадавымі краінамі свету. Што тычыцца ўласнага вопыту, то скептыкаў і недаверкаў хапае. Вялікае княства Літоўскае — калыска беларуска-літоўскай дзяржаўнасці — было ў свой час, можна сцвярджаць, нічым іншым як феадальнай прававой дзяржавай. Вядома, не можа быць сляпых запазычанняў. Але дэмакратычныя прынцыпы арганізацыі ўлады, кіравання, гарадскога самакіравання, судовага ладу, лічу, павінны быць творча перапрацаваны і выкарыстаны. Беларусі, дарэчы, ніколі не трэба было прасякаць акно ў Еўропу (акрамя бальшавіцкага часу), яна заўжды была цесна звязана з еўрапейскімі працэсамі. Яшчэ ў феадальны перыяд была ў пэўнай ступені распрацавана палітыка-прававая тэрміналогія. Іншы раз бянтэжыць упартае супрацьўленне часткі дэпутатаў і грамадзян аднаўленню ў нашых сучасных палітыка-прававых актах ранейшай тэрміналогіі (сойм, павет, ваявода, войт, лаўнік і інш.). Быццам бы нашы продкі былі эталонам дурасці і нічога каштоўнага не ў стане былі стварыць, а нам няма чым ганарыцца.

Стварэнне прававой дзяржавы азначае пераход на новы ўзровень палітыка-прававой культуры, які адначасова сведчыць аб фарміраванні новага палітычнага менталітэту.

У гэтым плане на Беларусі робяцца толькі першыя крокі. І ўсё ж прыняты шэраг важных законаў. Паступова стала ажыццяўляцца судова-прававая рэформа. Маючая адбыцца ў канцы сакавіка нечарговая сесія будзе прысвечана вельмі важным заканадаўчым актам: грамадзянскаму, крымінальнаму, працэсуальным кодэксам. Але ў цэлым да стварэння прававой дзяржавы далёка. Больш таго, назіраецца значная разбалансаванасць сістэмы прававога рэгулявання. Асабліва гэта ўласціва супярэчнасці паміж старымі нарматыўнымі актамі (у тым ліку і Канстытуцыяй), захаваўшымі яшчэ "сацыялістычныя каштоўнасці" і новымі законамі рынчнага напрамку. Многа сталі гаварыць аб "беспределе", карупцыі, росце злачыннасці і гэтак далей. На гэтай хвалі пэўныя палітычныя сілы сталі актыўна прапагандаваць каштоўнасць ранейшага правапарадку, зноў прапаноўваюць шукаць ідэалы не наперадзе — шляхах, выпрацаваных прагрэсіўным чалавецтвам, а ў стагнацыйным мінулым. Так, раней існаваў пэўны правапарадак, можа, нават у параўнанні з сённяшнім становішчам больш чым стабільны. Але гэта быў тупіковы правапарадак, які, нават цяжка назваць правапарадкам. Паколькі ён быў заснаваны больш на каманднa-адміністрацыйных прынцыпах, а не на праве. Таму і быў заканамерна адвергнуты грамадствам.

Праціўнікі стварэння новай палітыка-прававой культуры і сучаснага палітычнага менталітэту асабліва актыўна выступаюць супраць рэформаў арганізацыі і дзейнасці вышэйшых органаў улады. Напрыклад, сусветным вопытам даказаны перавагі прафесійнага парламента. У нас жа многія бачаць у дэпутаце не законатворцу, а хадака, закліканага "прабіваць" грашовыя сродкі і фонды для забеспячэння патрэб насельніцтва сваіх акруг. Тут, відавочна, немагчыма спалучаць работу на вытворчасці і ў парламенце. Якія ж тут законы і якая іх якасць? Бяда ў тым, што гэтую відавочную акалічнасць, як і іншыя палітычныя каштоўнасці, выпрацаваныя беларускім народам і сусветным вопытам, пэўныя палітычныя сілы хочуць затуманіць і абясцэніць.

Час цяжкі, складаны. Але вырашэнне нашых праблем у адзінстве, у пошуку ўласнабеларускага шляху палітычных пераўтварэнняў, перабудовы палітычнага менталітэту беларусаў на прынцыпах патрыятызму і веры ў будучыню беларускай дзяржавы.



*Мастакі: Міхась Басалыга, Васіль Шаранговіч.*
*З ілюстрацый да кніг "Янка Купала", "Старыя беларускія хронікі".*

## Грамада шчыра віншуе Вас, спадар Прэзідэнт!

**Літоўская Рэспубліка**
**Вільнюс**
**Прэзідэнту Літоўскай Рэспублікі**
**с.Альгірдасу Бразаускасу**

Выканкам Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і рада газеты "Грамада" шчыра віншуюць Вас з абраннем на пасаду Прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі. Жадаем поспехаў у Вашых памкненнях на шляху развіцця прынцыпаў свабоды, дэмакратыі і салідарнасці ў літоўскім грамадстве і традыцыйных добрасуседскіх адносін паміж Беларуссю і Літвою.

Ад імя выканкама —

**старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Алег ТРУСАЎ.**

Ад імя рады газеты "Грамада" —

**паэт, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

(Гутарку з А.Бразаўскасам з яго згоды "Грамада" надрукуе ў бліжэйшых нумарах газеты).

**Вось наша першае пытанне да Прэзідэнта незалежнай Літвы:**

— Сакавік — гэта час аднаўлення і ачышчэння. Лёсы беларусаў і літоўцаў пераплеценыя абгарэлымі вершалінамі і крывавымі каранямі аднаго дрэва жыцця ў мінулым. Зараз з'явілася, нарэшце, надзея і рэальная магчымасць выйсці на новае кола развіцця грамадства, пад знакам сапраўднай Свабоды, Незалежнасці, узаемавыгаднага супрацоўніцтва з усімі старэйшымі братамі і малодшымі сёстрамі былога Саюза непарушных...

У гэтай сувязі, што Вы маглі б сказаць у адрас камуністаў, якія прачнуліся на Беларусі і ўпарта стаяць на платформе нават не КПБ, а КПСС, адкрыта ці падспудна патрабуюць пакараць Ельцына, Краўчука, Шушкевіча... Дазволім сабе выказацца вобразна — скуголяць "на платформе" ды чакаюць прылёту гракоў...

— ?!

## Наш шлях:

# Воля. Зямля. Людзі.

Мы жывём у складаны і прадвызначальны час для лёсу ўсяго чалавецтва. У канцы 1991 года рухнула і раскалолася на дробныя аскалкі самая велізарная таталітарная дзяржава ўсіх часоў і народаў — СССР.

Такая падзея параўнальная толькі з развалам Рымскай ці Візантыйскай імперый альбо Іспанскай ці Брытанскай супердзяржаў. Адначасова зніклі з еўрапейскай карты і рэшткі былой Аўстра-Венгерскай імперыі: раскалолася Югаславія, мірна разышліся ў розныя бакі Чэхія і Славакія.

Беларусь упершыню, бадай што, пасля Люблінскай уніі атрымала поўную незалежнасць, прычым не праліўшы ніводнай кроплі чалавечай крыві. Для Еўропы гэта унікальны выпадак, дастаткова ўзгадаць, як напрыклад, дасягнулі незалежнасці галандцы, ірландцы ці балгары. Бог нарэшце звярнуў увагу на гаротны славянскі народ у цэнтры Еўропы, пазбаўлены роднай мовы і зацярушаны чарнобыльскім попелам.

Пакрысе мы ступаем на новы шлях — шлях да дабрабыту, чалавечае годнасці, пашаны.

І хоць на гэтым нялёгкім шляху шмат перашкод, але, спадзяёмся, выбраць пэўны накірунак вам дапаможа ў нейкай ступені і "Грамада" — свабодная беларуская газета сацыял-дэмакратычнага кшталту.

На яе старонках, акрамя актуальных матэрыялаў, акрамя досведаў і доследаў у самых розных галінах — эканомікі, філасофіі, гісторыі і культуры, — вы знойдзеце цікавыя і патрэбныя вам звесткі аб сацыял-дэмакратычным руху ў свеце, у нас на Беларусі.

БСДГ, якая з'яўляецца адным з заснавальнікаў "Грамады" — партыя, што аднавіла сваю дзейнасць у сакавіку 1991 года, адлюстроўвае сацыял-дэмакратычную плынь у нашай краіне.

Галоўная мэта, якую ставіць перад сабою партыя, — гэта ўмацаванне нашай маладой дзяржавы, стварэнне нейтральнай, бяз'ядзернай Беларусі. Мы выступаем за прафесійны парламент і моцную парламенцкую рэспубліку, дзе ўлада належыць прэм'ер-міністру. Дзеля таго каб палепшыць жыццёвы ўзровень нашых грамадзян, неабходна ствараць шырокі сярэдні клас, у які ўвойдуць прадстаўнікі тэхнічнай і навуковай інтэлігенцыі, высокапрафесійныя рабочыя, фермеры, былыя вайскоўцы, прадстаўнікі нацыянальнага малога і сярэдняга бізнесу. Апорай дабрабыту людзей павінна стаць прыватная ўласнасць на зямлю. Толькі асабістая зямельная квота, якую зможа атрымаць кожны жыхар Беларусі, дасць магчымасць выйсці з жабрачага становішча і атрымаць стартавы капітал на набыццё акцый свайго прадпрыемства, стварэнне ўласнай фермы ці перадачы асабістага паю ў сельскагаспадарчы кааператыў альбо атрыманне зямельнай рэнты з зямельнай квоты, якую пенсіянер ці студэнт перадасць у Зямельны банк.

Калі ж зямля застанецца ў руках былой партнаменклатуры, дык наш народ нічога добрага не чакае. Па ўсім відаць, цяперашні Вярхоўны Савет станоўча вырашыць гэта пытанне не жадае. Толькі новыя выбары, на шматпартыйнай аснове, з вашым актыўным удзелам, шаноўныя чытачы і грамадзяне, а значыць, новы парламент і новы ўрад ажыццявяць на справе эканамічныя і палітычныя рэформы на цывілізаваным шляху развіцця грамадства.

**Алег ТРУСАЎ,**
**старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

## Хроніка "Грамады"

### *Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*
### Богу ў вушы: "Няхай існуе на здароўе..."

**Член Конституционной комиссии Верховного Совета Республики Беларусь народный депутат Александр Лукашенко дал интервью радиостанции "Би-би-си", в котором ответил на следующие вопросы:**

**—Как Вы оцениваете ратификацию Договора СНВ-1?**

— Я оцениваю это так, как оценивают уже во всем мире, что это очень крупный политический шаг. Это шаг доброй воли со стороны Беларуси. Мы не стали играть, как некоторые республики бывшего Союза.

**— Парламент проголосовал также за отмену временного постановления о деятельности Компартии. Чем вызвана отмена этого постановления?**

— Должен сказать, чтобы развеять ваши опасения или сомнения, что отмена этого постановления абсолютно не связана с какой-то коммунистической опасностью, надвигающейся на Беларусь. И если у вас есть такие мысли, что тут уже красная опасность грозит Беларуси, то вы заблуждаетесь. Многие депутаты в парламенте не являются приверженцами коммунистических убеждений, но рассуждают так, что пусть на здоровье, если эта партия хочет существовать, именно КПБ, пусть существует.

### Камай і К$^0$ бяруць патэнт — на патэнтантства

После длительного перерыва состоялось первое заседание бюро ЦК Компартии Беларуси. Поводом для его проведения послужило решение Верховного Совета об отмене постановления о приостановлении деятельности Коммунистической партии.

### Вітанне ад Хрушчова, ці Кукуруза з Амерыкі...

Временный поверенный в делах Республики Беларусь в США С.Н.Мартынов от имени правительства республики уполномочен подписать соглашение между Товарно-кредитной корпорацией министерства сельского хозяйства США и Республикой Беларусь о безвозмездном выделении республике 200 тысяч тонн зерна кормовой кукурузы с оплатой фрахта белорусской стороной и выполнением всех мероприятий, связанных с реализацией этого соглашения.

### Пакуль украінцы чэшуцца аб ракеты...

Делегации Беларуси и Украины выступили на пленарном заседании Конференции по разоружению в Женеве.

Как отметил постоянный представитель нашей республики в Женеве Анатолий Мардович, Беларусь стала первым в истории государством, добровольно отказавшимся от обладания ядерным оружием, — Верховным Советом были ратифицированы договоры и о СНВ-1, и о нераспространении ядерного оружия.

Кстати, украинский парламент пока еще только рассматривает эти договоры.

### Камуніст N1 Чыкін у Карэі

Трудовая партия Кореи (ТПК) и Партия коммунистов Беларуси (ПКБ) будет тесно сотрудничать и поддерживать друг друга в борьбе против политики господства и кабалы, агрессии и войны, за дело мира, демократии и социализма, за новый свободный и процветающий мир.

Это подчеркивается в совместном заявлении двух партий, которое распространено по каналам северокорейского информационного агентства ЦТАК. Документ выработан по итогам визита в КНДР делегации коммунистов Беларуси во главе с сопредседателем ПКБ Виктором Чикиным.

**"Парламенцкі веснік"**

*Друкуецца на мове арыгінала.*

## Грамадзяне рэспублікі! Дзяржаўныя і грамадскія дзеячы!

# Беларусі зноў пагражае небяспека: КРАХ ЭКАНОМІКІ — КРАХ ДЭМАКРАТЫІ

Нягледзячы на глыбокі сацыяльна-эканамічны крызіс, які перажывае Беларусь, органы дзяржаўнай улады і кіравання рэспублікі, падкантрольныя былой партнаменклатуры, не здолелі распрацаваць жыццяздольнай нацыянальнай праграмы развіцця рэспублікі. Тым часам у рэспубліцы працягваюць паглыбляцца разбуральныя працэсы, адказнасць за якія рэакцыйныя сілы імкнуцца перакласці на дэмакратаў, каб скампраметаваць іх у вачах народа. Пэўныя цяжкасці пераходнага перыяду, звязаныя з распадам СССР і станаўленнем незалежных дзяржаў, ускладняюцца ў выніку таго, што вострыя сацыяльна-эканамічныя праблемы грамадства правячыя колы імкнуцца вырашыць альбо зыходзячы з вузкакланавых інтарэсаў, альбо праводзячы на хвалі зменлівага часу заземленую папулісцка-дэмагагічную палітыку.

Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі палохаюцца цывілізаванага рынку, баяцца праводзіць дэмакратычныя рэформы, пагарджаюць суверэнітэтам Беларусі, шараханнямі ў палітыцы абвастраюць крызісныя з'явы да мяжы абвальнага стану. Абвал пагражае "накрыць" дзяржаву, калі драматычна складзецца "рэзананс" аб'ектыўна існуючых эканамічных цяжкасцей з крытычнай вагой некампетэнтнай палітыкі.

**У галіне эканомікі:**

— даходзіць да крытычнай мяжы фізічны і маральны знос асноўных фондаў вытворчасці;

— працягваюць павялічвацца ў незавершаным будаўніцтве амярцвелыя велізарныя сродкі;

— разбураецца крэдытна-фінансавая сістэма рэспублікі, пагражальна ўзрастае дэфіцыт бюджэту і інфляцыя;

— працягвае дзейнічаць недасканалая і незбалансаваная фіскальная падатковая сістэма;

— згортваецца вытворчасць не толькі на прадпрыемствах, якія працуюць на прывазной сыравіне, але і на мясцовай. Марнуецца другасная сыравіна;

— у глыбокім крызісе застаецца сельская гаспадарка з-за нявырашанасці пытання аб уласнасці на зямлю і сродкі сельскагаспадарчай вытворчасці. Надзвычай нізкія закупачныя цэны не пакрываюць выдаткаў вытворчасці ў калгасах і саўгасах, што вядзе да рэзкага змяншэння аб'ёмаў вытворчасці;

— працягвае зніжацца вытворчасць сацыяльна значных танных тавараў для дзяцей і маламаёмных грамадзян;

— не дае практычных вынікаў канверсія прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу.

**У галіне сацыяльных адносін:**

— збядняецца большасць грамадзян Беларусі пры адначасовым абагачэнні людзей, якія не заняты стваральнай працай;

— існуючая сістэма сацыяльнага забеспячэння не адпавядае інтарэсам маламаёмных і сацыяльна неабароненых грамадзян. Аднак гэта сістэма задавальняе асноўных уласнікаў сродкаў вытворчасці — посткамуністычны дзяржаўна-гаспадарчы апарат.

**У палітычнай сістэме:**

Вярхоўны Савет, абраны падчас панавання КПБ—КПСС, і створаны ім урад Беларусі пацвярджаюць сваю незацікаўленасць і поўную бездапаможнасць пры вырашэнні важнейшых пытанняў жыцця грамадства;

— органы дзяржаўнага кіравання, выходзячы з-пад кантролю прадстаўнічай улады, становяцца месцамі фарміравання элітарных груп грамадства і нярэдка дзейнічаюць як структуры карумпіраванай сістэмы, звязаныя з ценявой эканомікай і арганізаванай злачыннасцю.

**У галіне духоўна-культурнага жыцця:**

— у грамадстве складваюцца ўмовы для духоўнага апусташэння людзей, разбураецца інфраструктура культуры, сістэмы адукацыі і выхавання;

— не праводзіцца дзяржаўная палітыка духоўнага і нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны;

— не змяншаецца груз маральных страт людзей, якіх накрыла чарнобыльская навала.

**Якія ж практычныя крокі робяць органы дзяржаўнай улады і кіравання рэспублікі ў гэтых складаных умовах?**

1. Ажыццяўляецца працэс "прыхватызацыі" і адмыццё "ценявога" капіталу замест прыватызацыі на аснове дэмакратычнага закона ў інтарэсах большасці як асновы для карэннай змены сацыяльна-эканамічнага ладу ў Беларусі.

2. Праводзіцца знешнегандлёвая і валютная палітыка, якая, не адпавядаючы інтарэсам Беларусі, павялічвае знешнюю запазычанасць, рост інфляцыі і вядзе да вычэрпвання рэсурсаў.

3. Урад рэспублікі без згоды заканадаўчай улады бярэ велізарныя замежныя крэдыты ў цвёрдай валюце, ставячы ў кабальную залежнасць ад крэдытораў наступныя пакаленні.

4. Штучнымі мерамі таланізацыі, купанізацыі, стварэннем "валютнага" сурагату ў форме разліковых білетаў стрымліваецца ўвядзенне цвёрдай нацыянальнай валюты.

5. Папулісцкімі метадамі ствараюцца неапраўданыя льготы ў сістэме падаткаабкладання розным сацыяльным групам насельніцтва, у той час як не хапае бюджэтных сродкаў для падтрымкі тых, хто гэтага заслугоўвае па стану здароўя альбо ўзросту.

6. Пастановай ад 7 кастрычніка 1992 года N 606 ("Аб парадку пераразліку пенсій") урад парушыў Закон "Аб пенсіённым забеспячэнні", выплачваючы пенсіянерам пенсію ў тых памерах, у якіх павінны быў выплачваць паўгода таму.

**Сярод мер, якія прапаноўвае Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада для выхаду з глыбокага сацыяльна-эканамічнага крызісу варта адзначыць наступныя:**

1. Правесці інвентарызацыю і ацэнку ў валюце і рублях усёй дзяржаўнай маёмасці. Паставіць на ўлік незаконна прыватызаваныя гаспадарчыя аб'екты. Вызначыць надзейны шлях захоўвання і зберажэння народнага дабра.

2. Прыняць дэмакратычны закон аб прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, у якім вызначыць долю працоўных і кожнага грамадзяніна ў асноўным багацці — сродках вытворчасці.

3. Структурна перабудаваць народнагаспадарчы комплекс Рэспублікі Беларусь. Паступова перайсці ад матэрыялаёмістых відаў вытворчасці да навукаёмістых і матэрыялазберагальных тэхналогій. Зарыентаваць народную гаспадарку краіны на задавальненне патрэб чалавека.

4. Вызначыць даступныя для краіны крыніцы альтэрнатыўнага забеспячэння энерганосьбітамі і важнейшай сыравінай сацыяльна-гаспадарчага комплексу рэспублікі. Распрацаваць праграму рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Беларусі. У першую чаргу прыступіць да прамысловай распрацоўкі важнейшых карысных выкапняў — гаручых сланцаў, бурага вугалю, золата, бурштыну і г.д., актывізаваць геалагічную разведку нетраў Беларусі.

5. Узмацніць абарону інтэлектуальнай уласнасці Беларусі.

6. Забяспечыць органы ўнутраных спраў, дзяржаўную бяспеку, суды, пракуратуры неабходнымі сродкамі для навядзення правапарадку.

7. Праводзіць пратэкцыяніслкую палітыку да знешняга гандлю. Выкарыстоўваць валютныя рэсурсы для ажыццяўлення важнейшых сацыяльна-эканамічных праграм і забеспячэння гаспадарчага комплексу рэсурсамі.

8. Вызваліць ад эканамічнай і замаскіраванай палітычнай залежнасці ад пэўных згрупаваных структур работнікаў органаў дзяржаўнага кіравання, калектывы дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

9. Заканадаўча вызначыць дзве формы ўласнасці на зямлю — дзяржаўную і прыватную. Перадаць зямлю тым, хто яе апрацоўвае. Устанавіць правы на прыватызацыю зямлі на аснове імянных прыватызацыйных чэкаў для ўсіх грамадзян Беларусі. Спрыяць арганізацыйнай перабудове калгасаў-саўгасаў на аснове прынцыпу добраахвотнасці і эканамічнай мэтазгоднасці. Забяспечыць дзяржаўную крэдытна-фінансавую падтрымку фермерскіх гаспадарак падчас іх станаўлення. Прыступіць да ажыццяўлення праграмы адраджэння беларускай вёскі.

10. Прыняць законы аб дзяржаўнай службе і аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй.

11. Увесці нацыянальную валюту, забяспечыўшы яе стабільнасць коштам мэтавых замежных крэдытаў, а таксама коштам дзяржаўнай маёмасці і прыродных рэсурсаў. Перайсці да самастойнай фінансава-крэдытнай палітыкі.

12. Прыняць захады па міжнародна-прававой ацэнцы прычын і вызначэння адказных за наступствы чарнобыльскай катастрофы.

13. Удасканаліць сістэму падаткаабкладання, скіраваўшы яе на падтрымку сацыяльна значных вытворчасцей і прагрэсіўных экалагічна чыстых тэхналогій, а таксама прыватнага вытворчага бізнесу. Увесці ў дзеянне Закон аб транзітным падатку, скарыстоўваючы тым самым геапалітычнае становішча рэспублікі ў народнагаспадарчых мэтах.

Усведамляючы сваю адказнасць перад народам Беларусі ў гэты надзвычай цяжкі і складаны для Бацькаўшчыны час, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада прапануе аднадумцам і ўзважаным палітыкам, дзяржаўным і грамадскім дзеячам, грамадзянам рэспублікі, якім не абыякавы лёс маладой незалежнай краіны, сваёй Радзімы, аб'яднаць намаганні, каб наша родная Беларусь стала заможнай і дэмакратычнай, дзяржава — сацыяльнай і прававой, а чалавек — шчаслівым, духоўна багатым і матэрыяльна забяспечаным.

**(З рэзалюцыі II з'езда Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады "Аб сацыяльна-эканамічным становішчы Рэспублікі Беларусь".)**

*Друкуецца ўпершыню.*

## Погляд:

# "Той, у каго ёсць галава на плячах, не мае права ставіць пытанне аб разрыве сувязей з суседзямі. Наадварот..."

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, прафесар, доктар эканамічных навук, член Цэнтральнай Рады БСДГ**

На самым пачатку новага года ў Еўропе адбылася значная падзея: Чэхаславакія мірна, ціха, без ужывання сілы падзялілася на дзве дзяржавы — Чэхію і Славакію. Паведамілі пра гэта газеты, прайшла інфармацыя па тэлебачанні і радыё і ніякіх глыбокіх каментарыяў, хоць падзея гэта настолькі значная для былога Саюза, што нам варта было б сур'ёзна задумацца. Сапраўды, калі такая адносна развітая ў Еўропе краіна як Чэхаславакія ўсё ж самавызначаецца, пасля доўгіх дзесяцігоддзяў дзве асноўныя нацыі дзяржавы — чэхі і славакі — разыходзяцца і ўтвараюць уласныя дзяржавы, то ў гэтым ёсць штосьці заканамернае. Значыць, тым больш заканамерным з'яўляецца працэс самавызначэння народаў былога Савецкага Саюза.

З'яўляецца несумненным, што ў Цэнтральнай Еўропе і на Балканах праходзіць канчатковая стадыя распаду былых Атаманскай і Аўстра-Венгерскай імперый. Толькі з той розніцай, што на Балканах — звыклым шляхам, праз грамадзянскія войны і кровапраліцце, а ў Цэнтральнай Еўропе — цывілізавана, без стрэлаў і чалавечых ахвяр.

Узнікае парадаксальнае пытанне: чаму, калі ў Літве перамагла на выбарах Партыя працы на чале з Бразаўскасам, то ў нас сярод пэўных колаў гэта выклікала шумную эйфарыю, маўляў, глядзіце, камуністы перамагаюць і вяртаюцца да ўлады? Праўда, у хуткім часе палітычным недаросткам сам жа Бразаўскас падчас візіту у Мінск сказаў недвухсэнсоўна, што Партыя працы — гэта зусім не пераемніца КПЛ (на платформе КПСС) і нават не пераемніца той партыі, якая выйшла з КПСС, а новая партыя, якая мае не уяўны, а сапраўдны клопат аб народзе. А пасля прэзідэнцкіх выбараў той жа Бразаўскас заявіў, што з камунізмам у Літве назаўсёды пакончана.

І вось зараз узнікае другое "чаму": менавіта чаму не выкарыстоўваецца вопыт Чэхаславакіі дзеля таго, каб нарэшце зразумець гістарычную неабходнасць адасаблення нацый і не адмовіцца ад настальгіі па былым Саюзе, дзе, можа, каму і жылося добра, толькі не мноству народаў з розным узроўнем эканамічнага і культурнага развіцця, са сваімі мовамі, традыцыямі, рэлігіяй, побытам і г.д? Штучнае ўтварэнне трымалася толькі на штыках ды Курапатах, а гэта даўгавечным быць не магло.

Замест таго, каб зразумець гістарычную непазбежнасць і прагрэсіўнасць распаду СССР і дзейнічаць у накірунку мацавання дружбы між народамі, знаходзяцца імперскія адэпты (пэўныя колы, а не народ рускі), якія прад'яўляюць прэтэнзіі на Крым ці на землі Прыднястроўя, якія ў гістарычным, тым больш этнічным плане ніколі не былі рускімі. У Беларусі шмат сапраўды законных падстаў патрабаваць вяртання этнічных беларускіх тэрыторый, якія гвалтоўна адабраны ад маці-Радзімы і далучаны да Смаленшчыны, Браншчыны ды Пскоўшчыны на ўсходзе і да Польшчы і Літвы на захадзе. Але свядомыя беларусы разумеюць, што гэта быў бы вялікі Карабах на палову Еўропы. А вось у гэты час на ўсходзе бабурыны і лук'янавы ніяк не зразумеюць, што тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Украіны ні да чаго не прывядуць, акрамя як толькі да вайны, прычым з-за зямель, якія ніколі не былі рускімі. Няўжо адыёзныя палітыкі не разумеюць, што вайна з Украінай можа стацца вайною з усім светам, бо ніхто ў былую турму добраахвотна не пойдзе і загнаць нікому нікога не ўдасца? Калі гэта не ўлічваць і імкнуцца да рэанімацыі былой імперыі, то па многіх аб'ектыўных прычынах у Сярэдняй Азіі ды іншых рэгіёнах атрымаем (ды і сёння ўжо маем) тое, што адбываецца ў Югаславіі.

Там і тут чуюцца галасы: Еўропа, маўляў, інтэгруецца, аб'ядноўваецца, а мы раз'ядноўваемся. Такія пастулаты разлічаны на недасведчаных. Па-першае, як бачым з вопыту Чэхаславакіі і Югаславіі, ідзе таксама і раз'яднанне. Апроч названых, утвораны і такія дзяржавы, як Славенія, Харватыя, Македонія. А па-другое, аб'ядноўваюцца пры поўным захаванні незалежнасці роўныя, незалежныя, развітыя, дзе ні ў каго нават і ў думках не ўзнікае ідэя, каб каго-небудзь падпарадкаваць, падначаліць, прыціснуць. Праз пэўны час, пасля стабілізацыі, развіцця эканомікі, адраджэння расціснутай нацыянальнай культуры і мовы, аднаўлення традыцый, калі людзі адчуюць сябе нацыяй, мы таксама не проста заявім, а станем на шлях інтэграцыі і пойдзем у Еўропу. Але разам з тым ніхто і зараз, у каго ёсць галава на плячах, не можа ставіць пытанне аб разрыве сувязей з суседзямі. Наадварот, трэба ўсяляк развіваць эканамічныя адносіны з Расіяй, Украінай, Літвой, Латвіяй і іншымі краінамі, а не пісаць статуты СНД, якія не могуць мець будучыні, не ствараць парламенцкія асамблеі, бо ўсё гэта выклікае страх слабых перад моцнымі зноўку патрапіць у ланцугі "дружбы".

## Яны сочаць за намі...

# Што Ленін "думаў" пра Беларусь, мы ведаем, а што думаюць сёння пра нас учарашнія "буржуі"?..

### (З некампетэнтных вытокаў)

Приобретение государственного суверенитета и экономической независимости Белоруссией в конце 1991 года было результатом не столько политического движения, поддерживаемого всеми слоями населения, сколько неизбежным следствием распада Советского Союза. В связи с этим белорусское государственное руководство едва ли было готово к решению задачи, связанной с реализацией самостоятельной экономической политики с упором на макроэкономическую стабилизацию и рыночную реформу народного хозяйства. Напротив, принимая административные меры, оно пыталось обеспечить промышленность ресурсами, сдерживая таким образом спад производства. Сокращение семейных доходов малообеспеченных слоев населения компенсировалось имеющими уравнительный эффект индексацией заработной платы и субсидиями на основные продукты питания. Финансирование огромного дефицита госбюджета в 1992 году осуществлялось почти исключительно денежной эмиссией.

Внутриполитическое положение Республики Беларусь, в противоположность России, является стабильным, отсутствует проблема принуждения к исполнению законов. Тем не менее, значительная часть утвержденных законов, которые смогли бы стать основой перехода к рыночной экономике, выполняется весьма относительно.

В Белоруссии преобладает стратегия постепенных реформ. Взаимозависимость различных экономических составляющих рыночных реформ зачастую недооценивается. Смешение отдельных элементов планового и рыночного хозяйствования приводит к обострению экономической неустойчивости и обречено на провал. Особенно распространенным является представление о том, что с помощью регламентации цен и субсидий можно избежать социальных трудностей. Правительсво Республики Беларусь явно не желает брать на себя ответственность за последствия — как политические, так и хозяйственные, возникающие в процессе преобразования плановой экономики в рыночную. Его попытка избежать социальной напряженности приводит к неизбежным потерям общественного благосостояния, поскольку таким образом усиливается инфляция и замедляются необходимые структурные преобразования. Существующие базовые принципы общественно-политического устройства, содержащие и без того в значительной мере элементы "старого мышления", и недостаточная готовность к проведению реформ позволяют в данный момент предположить, что развитие экономики Белоруссии в направлении рынка не предусмотрено.

*"Экономическое положение Республики Беларусь: накануне принятия решения о переходе к рыночной экономике".*

**Нямецкі інстытут эканамічных даследаванняў, г. Берлін.**
**Інстытут сусветнай эканомікі пры універсітэце, г.Кіль.**
**Інстытут эканамічных даследаванняў, г.Хале.**

